# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 11 (2205) 14 сакавіка 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.







**Гэтыя здымкі зроблены на граніцы двух раёнаў — Дубровенскага Віцебскай вобласці і Красненскага Смаленскай, на шашы Брэст — Масква, на граніцы Беларусі і Расіі. Рабіліся яны тады, калі на беларускім баку, у вёсцы Ліда, мела адбыцца сустрэча дубровенцаў і красненцаў. І адбылася днямі. Афіцыйна, урачыста, бо дэлегацыі абодвух раёнаў узначальвалі першыя сакратары райкомаў партыі і старшыні райвыканкомаў. Былі нібы радасныя провады масленіцы, на якія сабралася аж дзве тысячы чалавек. Спадзяёмся, што рускіх гасцей, што вярталіся са свята і пэўна ж везлі дадому нешта прыдбанае ў беларускіх крамах, не спыніў міліцэйскі жэзл на граніцы дружбы: усё ж дэлегацыя, ды яшчэ з раёна-пабраціма. А паедзь нехта з суседзяў-красненцаў у звычайны дзень, і без статуса афіцыйнага госця, — спыняць, зазглянуць у аўтамабіль: цяпер у нас па ўсім Саюзе так: дружба дружбай, а тавар у кожнага свой. І вывозіць яго за межы рэспублікі забаронена. Ахова ўнутранага рынку: сабе не хапае. Дзеля гэтага і стаіць міліцэйскі пост кантролю, або «таможня», як завуць людзі, на дарозе дружбы на граніцы Беларусі і Расіі, адзін з 38 такіх кантрольна-прапускных пунктаў, размешчаных на галоўных дарогах рэспублікі. Яны былі ўведзены з 1 лістапада мінулага года. А плён добрасуседскіх адносін выражаецца ў наступных лічбах: за гэты перыяд канфіскавана тавараў і накладзена грашовых штрафаў на суму каля 2 мільёнаў рублёў.**

**НА ЗДЫМКАХ: «Спыніся, праезджы! Пакажы, што вязеш!»; старшы сяржант Я. МЕНДЗЯЛЕЕЎ аглядае багажнік; старшы лейтэнант А. АРЫСТАЎ правярае дарожныя дакументы.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

# НЯХАЙ НЕ АЧАРСЦВЕЕ ВАША СЭРЦА

Знаёмства з Асацыяцыяй хворых на рассеяны склероз пачалося з пісьма ў рэдакцыю: прэзідэнт новай арганізацыі Уладзімір Трусевіч прасіў аб матэрыяльнай дапамозе. Па тэлефоне мы дамовіліся аб сустрэчы, каб абгаварыць нейкія дэталі.

...Я ішоў па добра знаёмаму адрасу. Калісьці ў доме нумар сем па вуліцы Калініна ў Мінску размяшчаўся Рэспубліканскі дом-інтэрнат састарэлых і інвалідаў. Тут жыў мой сябар-аднакурснік. Бываючы ў яго, я пазнаёміўся і нават сябраваў са многімі яго таварышамі, па прозвішчу ці па імені ведаў амаль кожнага жыхара гэтага двухпавярховага невялікага па гарадскіх мерках будынка.

Уся тэрыторыя інтэрната з садам была абнесена высокай кафляна-цагельнай фігурнай агароджай. Яна надавала закончаны выгляд і стварала нейкую ўтульнасць гэтаму астраўку нядолі.

Часам дырэктар дома вадзіў мяне па садку, паказваў кусты чаромхі, розныя кветкі на клумбах, яблыні, на якіх да самай зямлі звісалі галінкі з чырванабокімі пладамі.

— Усё гэта пасаджана нашымі жыхарамі — састарэлымі, — расказваў. — Догляд за кветкамі, садам і градкамі самы старанны. Таму ў кожным пакоі вясной і летам стаяць букеты: асобая ўвага да тых, хто зусім не можа рухацца. А яблык, свежых, мочаных, хапае на ўсю зіму, многа збіраем сваёй морквы, цыбулі... Хаця справа зусім не ў тых яблыках: ёсць жа ўсё дзяржаўнае. Тут псіхалагічны бок важны. Некалі многія з нашых старых корпаліся ў зямлі, мелі занятак. І цяпер у інтэрнаце без работы жыць не могуць.

І сапраўды па тым часе крыўдзіцца не было на што: дзяржава ї апранала, і добра кар-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ДАПАМАЖЫЦЕ КАЗАХСТАНСКІМ БЕЛАРУСАМ

Паважаная рэдакцыя!

Больш за адзінаццаць год пражыў я ў сталіцы Казахстана. Восем з іх вучыўся ў рускамоўнай школе ў цэнтры Алма-Аты, дзе не выкладалася нават казахская, не гаворачы ўжо пра іншыя мовы. Менчукам, бадай, гэта да болю знаёма: усе мы жылі ў так званай інтэрнацыяналістычнай краіне, кіраўнікі якой падмянілі інтэрнацыяналізм звычайнай русіфікацыяй і адначасова дэнацыяналізацыяй Расіі — стварэннем з розных народаў «новой общности людей».

Як хочацца спадзявацца, што ўсё гэта ўжо ў мінулым! Па ўсёй краіне пачалі нараджацца нацыянальныя культурныя таварыствы. Гэты працэс не абмінуў і беларусаў. Створана таварыства «Бацькаўшчына», перабудоўваецца існуючая «Радзіма»...

І вось ужо прачнуліся беларусы Казахстана. У газеце «Ленинская смена» надрукавана аб'ява ініцыятыўнай групы свядомых беларусаў, якая «просит принять участие в создании землячества белорусов Казахстана».

Людцы добрыя, беларусы Беларусі! Ведаю, як вам цяжка ад Чарнобыля матэрыяльнага і Чарнобыля духоўнага... Але хто, акрамя вас, паклапоціцца пра лёс суайчыннікаў за мяжой Беларусі? Дапамажыце братам-казахстанцам.

Вось адрас:

**480123, Алма-Ата, аддзяленне сувязі 123, паштовая скрынка 0 (нуль), ініцыятыўнай групе «Бацькаўшчына».**

**Юрась СВІРКА-КАВАЛЬСКІ.**

АДРАДЖЭННЕ

## УСТАНОЎЧЫ З'ЕЗД БСДГ

Адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады. На з'езд прыбыло 149 паўнамоцных дэлегатаў з усіх шасці абласцей і горада Мінска.

Выступаючы з дакладамі аб палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы і задачах БСДГ, аб статуце Грамады і яе праграме, доктар гістарычных навук Міхась Ткачоў, першы намеснік старшыні Мінгарсавета народных дэпутатаў Анатоль Гурыновіч і пісьменнік Анатоль Сідарэвіч яскрава акрэслілі намеры і задумы БСДГ. Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада — палітычная партыя, якая аб'ядноўвае на добраахвотных пачатках грамадзян Беларускай ССР для ажыццяўлення яе праграмных мэт і задач, заснаваных на агульначалавечых каштоўнасцях і ідэалах сацыял-дэмакратыі. Яна дзейнічае згодна з Канстытуцыяй БССР, Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб Дзяржаўным суверэнітэцэ БССР, законамі рэспублікі, на падставе праграмы і статута БСДГ. Партыя Грамады ўяўляецца яе арганізатарам як левацэнтрысцкая партыя парламенцкага тыпу; як партыя гуманістычных прынцыпаў і агульначалавечых каштоўнасцей; як партыя палітычнага рэалізму, нацыянальнай згоды і грамадзянскага міру; як партыя абароны грамадзянскіх, сацыяльных і палітычных правоў і асноўных свабод чалавека незалежна ад яго паходжання, нацыянальнасці, веравызнання і грамадскага становішча; як партыя адраджэння нацыянальнай самасвядомасці і самавызначэння народа на аснове Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР; як партыя дыялога і супрацоўніцтва з усімі дэмакратычнымі прагрэсіўнымі сіламі; як партыя ўзважаных падыходаў, канструктыўных рэформаў і пазітыўных праграм, цывілізаваных, негвалтоўных метадаў у сваёй дзейнасці.

Па задуме ініцыятараў адраджэння БСДГ, партыя павінна стаць часткай міжнароднага сацыял-дэмакратычнага руху.

Старшынёй Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады абраны гісторык Міхась Ткачоў. Намеснікамі старшыні сталі народныя дэпутаты БССР Алег Трусаў і Мікалай Крыжаноўскі, а таксама народны дэпутат Мінскага гарадскога Савета Ігар Чарняўскі.

КРЫМІНАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА

## ХТО ПАРУШАЕ ЗАКОН

У 1990 годзе ў Беларусі выяўлена 42 40[illegible] [illegible]чынцаў.

Амаль 7 тысяч (больш за 15 працэнтаў) — непаўналетнія ва ўзросце ад 14 да 17 гадоў; 24 працэнты злачынстваў учынілі маладыя людзі 18—24 гадоў. Часцей за ўсё трапляюць за краты пасля трыццаці — 17 982 (больш за 42 працэнты).

Найбольшая колькасць сярод тых, хто парушыў закон, — рабочых — амаль 50 працэнтаў, на другім месцы калгаснікі — 10,3 працэнта, на трэцім — служачыя.

Сярод асуджаных вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю мелі амаль 16 працэнтаў, а поўную і няпоўную сярэднюю — амаль 84 працэнты. Чым вышэйшы адукацыйны і інтэлектуальны ўзровень, тым менш здзяйсняецца злачынстваў.

У мінулым годзе на рахунку жанчын — 13,7 працэнта злачынстваў. Сярод тых, хто парушыў закон, зарэгістраваны 3 301 камсамолец (7,8 працэнта) і 1 315 (3,1 працэнта) камуністаў і кандыдатаў у члены КПСС.

КОНКУРС

## ЛЕПШЫЯ ЭКСПАРЦЁРЫ

Вызначаны пераможцы рэспубліканскага конкурсу «Лепшы экспарцёр года», які праводзіцца Гандлёва-прамысловай палатай БССР. За мінулы год імі прызнаны: Беларускі аўтазавод (г. Жодзіна), вытворчае аб'яднанне «Белмузпрам» (г. Барысаў) і Баранавіцкае вытворчае баваўнянае аб'яднанне імя Ленінскага камсамола.

Рэзка павялічыў экспарт БелАЗ, які лідзіраваў сярод вытворцаў складанай тэхнікі і машын. У дзесяткі краін адпраўляецца кожны чацвёрты 110-тонны самазвал. Спіс пакупнікоў нядаўна папоўніла Рэспубліка Перу. Нашы машыны добра зарэкамендавалі сябе ў складаных кліматычных умовах Паўднёвай Амерыкі.

Імкліва і ўпэўнена выйшла на сусветны рынак аб'яднанне «Белмузпрам». Прадаваць за мяжу піяніна, ксілафоны, цымбалы барысаўчане пачалі толькі ў 1988 годзе. Сёння музычныя інструменты купляюць у многіх еўрапейскіх краінах, у ЗША, Канадзе, Кітаі...

Трэці раз запар выйграюць конкурс баранавіцкія тэкстыльшчыкі. Баваўнянае аб'яднанне — актыўны ўдзельнік міжнародных выставак. Тут практыкуюць прамыя кантракты, бартэрныя здзелкі, клапоцяцца аб разнастайнасці экспартнага асартыменту.

ПЕРШЫ ЎРАДЖАЙ



Збор першага ўраджаю агуркоў пачаўся ў цяплічным камбінаце калгаса імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёна. Кожны тыдзень агароднікі гаспадаркі будуць пастаўляць у буйныя гарады Мінскай вобласці па 30—40 тон свежай гародніны.

НА ЗДЫМКУ: Алена МАРУК рыхтуе агуркі да адпраўкі ў гандлёвую сетку.

АФІЦЫЙНЫ ВІЗІТ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ БССР У ЯПОНІІ

Адбыўся візіт беларускай дэлегацыі ў Японію на чале са Старшынёй Савета Міністраў БССР Вячаславам Кебічам.

Першая прэс-канферэнцыя Старшыні Савета Міністраў БССР В. Кебіча ў Такійскім міжнародным цэнтры журналістаў паказала велізарную цікавасць да нашай рэспублікі. Прадстаўнікі больш як шасцідзесяці буйнейшых японскіх газет і інфармацыйных агенцтваў прынялі ўдзел у канферэнцыі. У сваім выступленні В. Кебіч удзяліў вялікую ўвагу неабходнасці наладжвання і развіцця гандлёва-эканамічных сувязей паміж БССР і Японіяй, асабліва ў сувязі з пераходам рэспублікі на рыначныя адносіны. «Мы з удзячнасцю прымаем і будзем прымаць любую дапамогу нашаму шматпакутнаму народу,— заявіў Старшыня Савета Міністраў БССР. — Але разлічваем не толькі на яе. Для вырашэння няхай не ўсіх, але многіх праблем, выкліканых буйнейшай прамыслова-ядзернай аварыяй XX стагоддзя, велізарнае значэнне будуць мець цесныя эканамічныя адносіны з развітымі дзяржавамі свету, іх значныя інвестыцыі ў народную гаспадарку Беларусі».

Буйнейшыя выданні Японіі змясцілі падрабязную інфармацыю аб прайшоўшай прэс-канферэнцыі, падкрэсліўшы пры гэтым беспрэцэдэнтны размер матэрыяльных страт, выкліканы чарнобыльскай катастрофай — больш як 100 мільярдаў рублёў — і ўзнікшае ў сувязі з гэтым напружанне ў фінансаванні рада праграм урадам рэспублікі.

Дэлегацыя Беларускай ССР наведала адміністрацыйны цэнтр прэфектуры Акіта ў паўночназаходняй частцы Японіі. Адбылася сустрэча з прадстаўнікамі буйнога бізнесу і грамадскасці горада, у ходзе якой у дар Беларусі былі перададзены сучасныя медпрэпараты і абсталяванне. Высветлілася, што японскія дзелавыя колы, акцэнтуючы сваю ўвагу на супрацоўніцтве з усходнімі рэгіёнамі СССР, маюць даволі слабае ўяўленне аб эканамічным патэнцыяле і магчымасцях Беларусі.

Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч быў прыняты прэм'ер-міністрам Японіі Тасікі Кайфу. Напярэдадні ў друку падкрэслівалася, што за апошнія дзесяцігоддзі гэта першая сустрэча кіраўніка кабінета міністраў Японіі з кіраўніком урада саюзнай рэспублікі, якая праходзіць у Токіо.

ЗАМЕЖНЫЯ СУВЯЗІ



Нядаўна ў гасцях у пажарнікаў Партызанскага раёна Мінска пабывалі выратавальнікі з ФРГ. Гэта людзі, якія першымі прыбываюць на месца пажараў, аварый, стыхійных бедстваў, экалагічных катастроф. Усе, хто служыць у камандзе выратавальнікаў, — аматары, іншымі словамі, добра трэніраваныя людзі, для якіх прыйсці першымі на дапамогу — патрэба і абавязак. У любы час дня і ночы могуць атрымаць яны сігнал бедства, што паступае з цэнтральнага пульта на спецыяльнае электроннае прыстасаванне, якое заўсёды носяць пры сабе.

— За сваю працу выратавальнікі не атрымліваюць ні маркі, — сказаў нямецкі выратавальнік Гюнтэр ШУТЦ, якога вы бачыце на здымку (друг[illegible]) разам з мінскімі [illegible]нікамі.

ГУБЛЯЕМ РЭПУТАЦЫЮ НА РЫНКУ

# НЯПЭЎНАЯ ВЫГАДА

Недахоп валюты і палітычная нестабільнасць у краіне прывялі да рэзкага зніжэння аб'ёмаў знешнегандлёвых аперацый з боку савецкіх прадпрыемстваў і спаду дзелавой актыўнасці заходніх партнёраў. У выніку скарачэння экспарту і хуткага росту імпарту ў СССР скапілася пратэрмінаваных плацяжоў па імпарту на 7 мільярдаў долараў. Наша краіна страціла на міжнародным рынку пазыковых капіталаў статус першакласнага пазычальніка і надзейнага гандлёвага партнёра. Замежныя пастаўшчыкі ў адносінах з савецкімі заказчыкамі сталі патрабаваць урадавых гарантый. Каб наталіць валютны голад, урад пайшоў на шэраг мер прымусовага характару.

Напрыклад, разам з увядзеннем 40-працэнтнага абавязковага продажу зробленай валюты Знешэканомбанку СССР па камерцыйнаму курсу (роўнаму 1,8 рубля за 1 долар ЗША) былі ўстаноўлены нарматывы валюты, якімі могуць распараджацца прадпрыемствы. Усё, што звыш, неабходна адлічваць рэспубліканскім ці мясцовым органам улады. На практыцы гэта азначае, што савецкія фірмы, якія вядуць знешнеэканамічную дзейнасць, сёння маюць права пакідаць сабе 10—30 працэнтаў валютных даходаў. Гэта наўрад ці будзе садзейнічаць павышэнню арыентацыі вытворчасці. Да ўвядзення названых мер у распараджэнні савецкіх экспарцёраў заставалася 30—50 працэнтаў.

Не менш цяжкім для прадпрыемстваў становіцца імпарт. З аднаго боку, абмежаваны магчымасці атрымання валюты, а з другога — не пакінуты без падатку і самі імпартныя аперацыі. Акрамя таго, арганізацыям недзяржаўнага сектара забаронена праводзіць бартэрныя здзелкі, якія цяпер дасягнулі масавага характару і для многіх удзельнікаў з'явіліся адзіным спосабам атрымання імпартнага абсталявання і тавараў.

Усе гэтыя непапулярныя сярод прадпрымальнікаў рашэнні, хаця і могуць прынесці сёння пэўны даход у казну, але толькі ў кароткатэрміновым плане. У перспектыве ж гэта, на маю думку, тупіковы шлях які вядзе да замарожвання дзелавой актыўнасці як савецкіх, так і замежных удзельнікаў знешнеэканамічнай дзейнасці.

Узмацненне падатковага ціску прывяло да скарачэння прамых замежных інвестыцый. Цяпер ужо не даводзіцца гаварыць аб значным росце колькасці зарэгістраваных на тэрыторыі СССР сумесных прадпрыемстваў. Урад у канцы 1990 зрабіў больш жорсткім рэжым іх падаткаабкладання. У СП сталі браць падатак з абароту і павялічылі падатак на прыбытак. У выніку ўпаў інтарэс замежных партнёраў да такой формы супрацоўніцтва. Пасля падзей у Прыбалтыцы некаторыя з іх аб'явілі аб сваім намеры забраць свае капіталы з савецкай эканомікі.

Праблематычна выглядае сёння магчымасць атрымання крэдытаў. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца нядаўна прынятае ў Вашынгтоне краінамі «вялікай сямёркі» рашэнне аб часовым прыпыненні эканамічнай дапамогі СССР на агульную суму 16 мільярдаў долараў да высвятлення палітычнага курсу савецкага прэзідэнта.

Ва ўзнікшай сітуацыі саюзны і рэспубліканскія парламенты імкнуцца стварыць новую, прывабную для замежных інвестараў прававую базу, прадаставіць дадатковыя гарантыі. Прычым рэспубліканскія праекты прадугледжваюць нават больш ільготны рэжым падаткаабкладання і больш шырокую сферу прыкладання капіталу, чым саюзныя. Напрыклад, парламент Расіі дапускае дзейнасць замежнага інвестара ў банкаўскай і страхавой галінах.

Знайсці прычыну пагаршэння стану знешнеэканамічных сувязей СССР спрабуюць многія. На мой погляд, у гэтым пытанні зацвердзіліся два меркаванні. Адны лічаць, што вінаваты цэнтр з яго вельмі жорсткай фінансавай палітыкай і паўмерамі ў галіне эканамічных пераўтварэнняў, іншыя перакладаюць усю адказнасць на рэспублікі, крытыкуючы іх імкненне да «неабмежаванага» суверэнітэту. Відаць, асноўная прычына заключаецца ў тым, што цэнтр і рэспублікі ідуць да ўнутранага і сусветнага рынку рознымі шляхамі. Таму, пакуль не спыніцца «вайна законаў» і не будзе канкрэтна вызначана кампетэнцыя цэнтра і рэспублік, гаварыць аб нейкіх рэальных гарантыях заходнім прадпрымальнікам і перспектывах паляпшэння знешняга гандлю, як мне ўяўляецца, заўчасна.

Алег ШАНАЕЎ,
доктар эканамічных навук.

## СЕЛЕКЦЫЯ







Прыдатны для вырошчвання ва ўмовах нашага клімату сорт соі атрыманы вучонымі Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР. Падзея гэтая неардынарная. Вось ужо многія дзесяцігоддзі соя з цяжкасцю прабівае сабе дарогу на палі рэспублікі. Алегу Давыдзенку — навуковаму супрацоўніку інстытута было цікава папрацаваць з культурай, якая заваёўвае ўсё больш шырокае прызнанне ў свеце. Міф аб тым, што ў нас яна «не расце», Алег Георгіевіч і яго добраахвотныя памочнікі-школьнікі хутка развеялі.

Атрыманы ў інстытуце сорт паказаў высокую ўстойлівасць да халадоў, добрую ўраджайнасць — 20-25 цэнтнераў збожжа з гектара, тады як па краіне ў апошнія дзесяць гадоў з гектара збіралі ў сярэднім толькі пяць цэнтнераў соевых бабоў. Праўда, такі высокі ўраджай можна атрымаць толькі пры ўмове правільнай агратэхнікі. Яе многа гадоў на Гомельскай абласной доследнай станцыі распрацоўвала старшы навуковы супрацоўнік Ганна Пархамовіч. Давыдзенка і яго памочнікі ўпэўнены, што за сояй будучыня. Гэтая культура не выпадкова рэвалюцыянізавала сельскую гаспадарку Амерыкі. Бо ёсць два асноўныя шляхі павышэння эфектыўнасці жывёлагадоўлі: альбо нарошчваць вытворчасць збожжа (а мы яго і так вырошчваем нямала, але ўсё ж не хапае), альбо ствараць высокабялковыя культуры, як робіць увесь цывілізаваны свет. І, менавіта балансуючы імі, атрымліваць ідэальныя кармы. Соевы бялок у 29 разоў таннейшы за тое, што атрымліваюць экалагічна небяспечныя мікрабіялагічныя вытворчасці. Ён бліжэй за ўсё да жывёльнага бялку па амінакіслотнаму саставу, лёгка засвойваецца арганізмам.

НА ЗДЫМКАХ: старшыя лабаранты Руслан ЯКІМОВІЧ (справа) і Дзяніс ГАЛАЕНКА за гібрыдызацыяй соі ў цяплічным комплексе інстытута; так выглядае соя, вырашчаная ў інстытуце; загадчык лабараторыі нехрамасомнай спадчыннасці доктар біялагічных навук Алег ДАВЫДЗЕНКА.

Фота У. ВІТЧАНКІ.

# НЯХАЙ НЕ АЧАРСЦВЕЕ ВАША СЭРЦА

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

міла, і яшчэ пенсію плаціла. Але «райскім жыццё» тут здавалася не ўсім.

— А чаго мне скардзіцца на жыццё? — казаў дзядуля Іван з Магілёўшчыны — Застаўся адзін у сваёй вёсцы, дзяцей няма. Пакуль хапала сілы, працаваў у калгасе конюхам, меў сваю гаспадарку. Пастарэў, перастаў рабіць спачатку ў калгасе, а затым і каля хаты ўжо не мог управіцца. Не вельмі клапацілася пра мяне мясцовае начальства. Ды яшчэ і суседзі перасталі заглядваць ў маю хату — ачарсцвелі сэрцы ў людзей, не спагадаюць. Цяпер жа і гора мала, ведаю, што без хлеба ці медыцынскай дапамогі не застануся.

— Ніколі не дарую роднай дачцэ, — наракала былая выкладчыца нямецкай мовы, заслужаны настаўнік БССР, якая не хацела, каб ведалі яе прозвішча (сорам які!), — яны з зяцем сілай адправілі мяне ў дом састарэлых. Бачыце, ім расшырыцца за кошт майго пакоя патрэбна было. Забыліся, як я іх дзяцей гадавала... Не магу быць я тут. Патрэбны спакой, а мне ў інтэрнаце асобны пакой не даюць. А яшчэ мучуся, што пры жывых дзецях на казённыя харчы пайшла.

Як бачым, і сапраўды для аднаго ледзь не райскае жыццё, а для другога — хоць у пятлю лезь. І тым не менш яшчэ большай спагады заслугоўвалі не састарэлыя — яны і напрацаваліся, і нажыліся,—а інваліды з дзяцінства, маладыя яшчэ хлопцы і дзяўчаты, якія часам самі і на ложку не маглі паварнуцца. Ды і тыя, што на калясках, здаралася, менш за малых дзяцей нешта маглі рабіць.

На першым часе яны выклікалі ў мяне жаль і спачуванне. Але чым часцей я бываў у інтэрнаце, тым больш пранікаўся да іх вялікай павагай. Бачыў, што яны не толькі елі казённы хлеб, але ўсімі сіламі прагнулі жыць і дамагаліся ледзь ці немагчымага.

Уладзімір Пракопаў скончыў інстытут замежных моў, цяпер працуе выкладчыкам по[illegible] нічнага інстытута, мае ся[illegible]. Ці мой аднакурснік Леў Жлобінскі. Пасля універсітэта займаўся перакладамі з рускай на беларускую мову, пісаў вершы і збіраўся выдаць зборнік. І толькі трагічны выпадак абарваў яго жыццё.

Трагедый у тым доме ха[illegible]. Ішлі на вечны спачын старыя, ад хвароб паміралі і маладыя. Неяк у інтэрнат паступіў быццам бы здаровы хлопец. Звалі яго Ванем Украінцам. Любіў Ваня і пажартаваць, і павесяліцца, нават у футбол гуляў. Я здзіўляўся: ці туды ён трапіў? «Сюды», — нявесела адказваў урач інтэрната і назваў дыягназ: «У Украінца рассеяны склероз. Паглядзіце, што гадоў праз пяць будзе».

Пяці гадоў не спатрэбілася. Хвароба хутка прагрэсіравала. Праз кароткі тэрмін хлопца не стала.

...Што ж гэта за такая хвароба, калі ўрачы бяссільныя перад ёю? А можа цяпер нешта змянілася?! Такія, прыкладна, пытанні задаваў я сабе, падыходзячы да дома нумар сем па вуліцы Калініна.

Ля прахадной разгублена спыніўся. Кудысьці знікла тая кафляна-цагельная агароджа. Замест яе стаяла іншая — з рэдкіх тонкіх металічных пруточкаў. На месцы клумбаў — даўно выкапаныя і закінутыя будаўнікамі равы, непадалёку — зламаныя кусты чаромхі. Асабліва ўразіў сад: на месцы многіх яблынь і груш не засталося нават і пнёў, рэдка якое дрэва не пакалечана. Ад жанчыны, якая хадзіла непадалёку, даведаўся, што і апошнія фруктовыя дрэвы хутка знікнуць, бо на іх месцы плануецца пабудаваць адміністрацыйны корпус.

Вось такі сумны, але характэрны для нашага часу малюнак. Колькі прыгожых куткоў Мінска так бяздумна нішчыцца яшчэ сёння!

Упэўнены, што такога б не здарылася, каб тут заставаўся дом-інтэрнат, які пераехаў у новы мікраraён горада. А ў двухпавярховым будынку цяпер і зарыентавацца цяжка. Тут і кіраўніцтва таварыства інвалідаў, і рэдакцыі газет «Наша доля», «Вера», і кааператыў «Інвасервіс», і камбінат надомнай працы...

...Нядаўна ў адной маладзёжнай газеце быў змешчаны артыкул, у якім аўтар падлічыў, што ў Беларусі за апошнія гады створана недзе каля 200 асацыяцый розных кірункаў. У той жа час гэты аўтар сцвярджаў наступнае: «Не ўсе асацыяцыі маюць права на жыццё».

Таму, калі я знайшоў Уладзіміра Трусевіча, то задаў, на першы погляд, не зусім тактоўнае пытанне:

**— Уладзімір Іванавіч! Магчыма, стварэнне вашай асацыяцыі не больш чым даніна модзе! Многія з нас і ўяўлення не маюць аб рассеяным склерозе. Што гэта за хвароба!**

— І сапраўды ў ліку хранічных захворванняў рассеяны склероз займае не першае месца. Але страшна, што гэта хвароба рэзка прагрэсіруе. Калі гадоў дзесяць назад у рэспубліцы было недзе 2,5 тысячы хворых, то зараз удвая больш. Яшчэ адна акалічнасць. Ад рассеянага склерозу не знойдзены паратунак нідзе ў свеце. Гэта страшней за рак.

**— Прабачце, Уладзімір Іванавіч, няўжо новая асацыяцыя пачне займацца лячэннем!**

— Не хвалюйцеся, мы не будзем забіраць хлеб у медыкаў. Лячыць павінны яны, яны ж і лечаць, як могуць. Хаця, па задуме, і асацыяцыя не застанецца ў баку. Марым, калі разбагацеем, будаваць прафілактычныя цэнтры, дзе хворыя змогуць папраўляць сваё здароўе. Ужо цяпер узялі на ўлік, так званых, народных дактароў. Маем прыклады, калі хворыя на склероз звярталіся да іх, і гэта лячэнне прынесла многім нейкую палёгку.

Але галоўная мэта нашай асацыяцыі ў іншым. Вы не знойдзеце нідзе больш безабаронных людзей, чым хворыя на рассеяны склероз. Я маю на ўвазе юрыдычны і сацыяльны бок справы. Чалавека, які захварэў на гэтую хваробу, адразу звальняюць з завода ці фабрыкі. Яго нібы выкідваюць з калект[illegible] грамадства. Выйсце ў яго [illegible]: сядзець дома і атрымліва[illegible] пенсію. Сапраўды так, хворы не можа выконваць цяжкую работу. Але ж ён хоча працаваць. І тады на дапамогу прыходзіць наша асацыяцыя [illegible] прапаноўваем захварэўш[illegible] паступіць у камбінат надомнай працы, каб плесці гаспадарчыя сеткі ці вязаць шкарпэткі. Такі занятак прыносіць не толькі немалую дабаўку да пенсіі, але дапамагае хвораму адчуваць сябе чалавекам, патрэбным грамадству. Маральная падтрымка — найлепшае лякарства для яго.

**— А які прыклад вы можаце прывесці юрыдычнай абароны асацыяцыяй хворага на рассеяны склероз!**

— Калі летась мы стварылі асацыяцыю, то пастараліся падабраць сабе людзей з юрыдычнай адукацыяй. І рабілася гэта не выпадкова. Першым крокам работы нашай грамадскай арганізацыі стаў перапіс хворых на рассеяны склероз. Натуральна, даводзілася заходзіць да іх дамоў, знаёміцца з умовамі жыцця. І тут сутыкнуліся з такой недарэчнасцю. У працоўных кніжках у кожнага запісана: «Непрацаздольны». Але, калі ў аднаго хворага першая група інваліднасці, то ў іншага — другая. Найвялікшая несправядлівасць! Сёння з другой групай інваліднасці не толькі сям'ю, але і сябе пракарміць з такой пенсіяй немагчыма. Дзякуй Богу, нашым юрыстам удаецца дапамагчы людзям атрымаць першую групу інваліднасці.

**— Ці заўсёды ўсё вырашаецца па закону!**

— Што вы! Каб жа так было! Многія нашы хворыя жывуць у інтэрнатах для інвалідаў і састарэлых. Нядаўна прыйшло ад іх пісьмо з такога інтэрната. Скардзіліся хворыя, што пабудавалі для іх шыкоўны будынак. У ім вялізныя пакоі. Некаторыя нават занадта вялікія. Абслуговы персанал таксама ўсё атрымаў: пакоі для адпачынку, «чырвоны куток» і г. д. Але не знайшлося месца для масажнага кабінета, працэдурных кабінетаў для хворых. Нашы юрысты і па сёння не могуць нічым дапамагчы тут: ніхто не хоча задаволіць законныя патрабаванні нашых пацыентаў. Бюракратычных рагатак хапае, і не заўжды асацыяцыя можа з імі справіцца адразу.

**— Уладзімір Іванавіч, вы не сказалі, хто можа стаць членам асацыяцыі.**

— Усе, хто пажадае. Кожны чалавек, які мае добрае, спагадлівае сэрца. Нават цэлы вытворчы калектыў, які падтрымае нас матэрыяльна.

**— Дарэчы, пра матэрыяльны бок. Мне добра вядома, што на леташняй устаноўчай канферэнцыі вашымі заснавальнікамі сталі Міністэрства аховы здароўя, Міністэрства сацыяльнага забеспячэння БССР і іншыя салідныя ўстановы. Чаму ж тады праўленне асацыяцыі просіць аб дапамозе! Няўжо заснавальнікі забыліся пра вас!**

— Абяцаць сёння ўсе могуць. Так і адбылося з нашымі заснавальнікамі. Смешна казаць, але сёння на рахунку мы маем толькі нейкія адзінаццаць тысяч рублёў. Гэта мізэрная сума.

Атрымалася, як у той казцы: кінулі шчупака ў раку, а ў ёй няма вады — жыві як хочаш. Сёння асацыяцыя не мае нават свайго памяшкання. У Мінгарвыканкоме нам абяцаюць даць цэглу, але не даюць будаўнікоў. Няўжо спадзяюцца, што самі хворыя за кельму возьмуцца?..

Цяжкасці ў рабоце кіраўніцтва асацыяцыі і яе прэзідэнта сустракаюцца літаральна на кожным кроку. Вельмі часта ад новай арганізацыі проста адмахваюцца. Як здарылася гэта пад Новы год, калі ніхто не захацеў выдзеліць транспарт, каб развезці хворым падарункі, што прыслалі з-за мяжы. Добра яшчэ, што ва Уладзіміра Іванавіча свая асабістая машына. І ўсё-такі прэзідэнт не губляе аптымізму: не можа быць загубленай высакародная справа. Ды і свет не без добрых людзей, не ва ўсіх яшчэ ачарсцвелі сэрцы, прыйдзе і дапамога. На развітанне Уладзімір Трусевіч падзяліўся сваёй першай радасцю: прыйшло паведамленне, што Беларуская асацыяцыя мае магчымасць стаць членам міжнароднай асацыяцыі хворых на рассеяны склероз...

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

# DESPUES DE QUE LA MAYORIA RESPONDA "SI"

**El referéndum a celebrarse el 17 de marzo: ¿Cree usted necesario conservar la Unión de Repúblicas Socialistas Soviéticas como una federación renovada de repúblicas soberanas con iguales derechos, en la cual en plena medida serán garantizados los derechos y libertades del hombre de cualquier nacionalidad?**

Pocos días quedan hasta el 17 de marzo. A nosotros, hastiados por nuestra vida cotidiana, nos importan poco (excepto los políticos profesionales), el sentido y el significado de esta fecha. Entretanto, nos espera un acontecimiento sin precedentes en la práctica patria y mundial. En este día de marzo, no lejano, los ciudadanos del gran país tendrán que definirse respecto a los principios de su vida social.

La pregunta planteada de una manera alambicada que incluye el referéndum, se parece a la matrioshka rusa. En una sola oración está incluido todo: la conservación de la unidad del Estado, su régimen social, las formas de poder y los principios básicos. En el referéndum —lo mismo que en el ejército— sólo hay dos respuestas: "sí" o "no". La respuesta positiva se extiende a todo. Y en cuanto a los que digan "no", será imposible comprender qué es lo que ellos rechazan.

Nuestro afán de siempre de expresarlo todo con un solo vocablo ha sobrecargado demasiado la lancha del referéndum. La esencia del asunto —el ser o no ser el Estado federal— se pierde en la abundancia de características complementarias. Al mismo tiempo, éstas crean un marco rígido que priva al Poder Central de la libertad necesaria para maniobrar en este complicadísimo proceso de creación de un Estado nuevo. El valor polivalente de la respuesta afirmativa debilita la fuerza que ejerce cada uno de sus componentes.

Creo que la mayoría de los participantes dará la respuesta afirmativa a la pregunta planteada. Por esto precisamente me preocupa mucho lo que pasará después del referéndum.

Ha sido perdida la posibilidad de hallar un "compromiso histórico", buscar un acuerdo, una paz civil, que se hacía posible gracias a la discusión de los programas más diversos de paso a la economía de mercado en otoño del año pasado. Las partes de signo contrario se encabritaron y comenzó un diálogo de sordos.

La actual situación explosiva se debe al carácter inconcluso de las reformas políticas de los últimos años. Dejemos a los historiadores los debates en torno a si era necesario comenzar la perestroika por la ideología o la economía. Desde el punto de vista de nuestro tema, reviste un significado de principios el siguiente hecho: en el país, existe una multitud de centros de poder, con su propia legitimación, sumidos en encarnizados pleitos y conflictos recíprocos.

En la cacofonía de nuestra vida sobresale la voz de las autoridades centrales y republicanas. La aclaración de sus relaciones mutuas constituye el leitmotiv del proceso político. No es sorprendente que éste haya cobrado especial tensión en Rusia, donde ambas partes pretenden a una misma base de influencia. En este pleito los resultados del referéndum del 17 de marzo ejercerán una influencia muy grande.

Es posible convertir la probable victoria de los partidarios de un Estado único en mandato imperativo de los electores, en una especie de carta blanca que haga posible menospreciar las exigencias legítimas de las repúblicas. El proceso absolutamente necesario de restablecer un poder estatal fuerte no debe conducir a la reanimación de las estructuras obsoletas.

Al contrario, si el poder central cuenta con el apoyo de su postura clave, tendrá que mostrar el máximo de comprensión y hacer concesiones. Para ello tiene buenas posibilidades: ampliar las facultades del Consejo de la Federación, transformar el Soviet de las Nacionalidades en cámara alta del parlamento federal con derecho a ratificar todos los nombramientos políticos más importantes, organizar las elecciones del Presidente del país por un grupo de electores con una representación proporcionalmente más grande de pueblos y repúblicas poco numerosos, etc.

**V. KUVALDIN,**
**doctor en Historia**

# ENRIQUECIMIENTO MUTUO

**"Zapovit" así se llama la Sociedad cultural creada recientemente en Bielorrusia por los ucranios residentes en la república.**

Es una Sociedad que acaba de formarse, por eso no todos los habitantes ucranios en Bielorrusia (cerca de 290 mil) tienen idea de su existencia, aunque su popularidad es bastante grande. La primera velada dedicada al poeta ucranio Tarás Shevchenko reunió no sólo a ucranios, sino también a rusos, polacos y bielorrusos.

— Estábamos muy contentos por eso —nos dice Mijaíl Gumenny, Presidente de la Sociedad—, puesto que la creación de "Zapovit" tiene por objeto superar las barreras y no aislarse de los vecinos, sino al revés: contribuir con la cultura y el idioma nacionales al enriquecimiento recíproco. Ante nosotros está presente una de las tareas primordiales: aprender el bielorruso, una lengua que hoy, lamentablemente, suena raras veces. Intentamos llenar las lagunas de nuestra educación e instrucción, pero tampoco olvidamos que es menester conocer mejor nuestra tierra, Ucrania, de donde son nuestras raíces.

El propio Mijaíl Gumenny domina a la perfección el bielorruso, lo mismo que su lengua natal el ucraniano. Durante diez años ha integrado el Coro Académico Estatal de la RSSB que lleva el nombre de Tsitóvich. Ahora Mijaíl abriga la esperanza de que se escuchen las canciones ucranias a la par con las populares bielorrusas, que interpreta el coro, cantadas por los artistas aficionados de la Sociedad, que aspiran a tomar parte en la vida cultural de Bielorrusia.

Mijaíl Gumer[illegible] sigue desarrollando su[illegible]s: —Entre los bielorrusos [illegible]ay poetas, pintores y artesanos de origen ucranio, que mantienen las tradiciones populares ucranias. Queremos que nuestros hijos apr[illegible]n lo que sabían hacer antepasados: En nuestra Sociedad trataremos de organizar una escuela dominical para los que aspiren a recibir nuevos conocimientos.

Los miembros de la Sociedad toman con dolor los conflictos étnicos que surgieron en algunos confines de nuestro país. Ellos se pronuncian en contra de cualquier forma de nacionalismo chovinista, y su mayor deseo es coadyuvar a la actividad cultural del Fondo Bielorruso de Cultura, a través de la historia, la cultura y el idioma de ambos pueblos ya que para eso fue creada la sociedad adjunta al Fondo.

**Natalia ANATOLIEVA**





*La Asociación Bielorrusa de Artesanía Popular ha fundado dos empresas. Estas son: la "Traétskae" y la "Róskvit" (Florecimiento). La primera se especializa en la fabricación de los artículos de tricot que se tejen tanto a mano como a máquina. La segunda abastece de los objetos de confección a la tienda que pertenece a la asociación. Dicha tienda que se encuentra en la ciudad de Minsk ofrece a sus clientes no sólo los artículos de tejeduría y confección sino también los de artes aplicadas. Hoy día los objetos, hechos de cerámica bielorrusa, de paja y madera, se exportan a más de 15 países del mundo.*

*EN LAS FOTOS: Marina ALEJNOVICH (a la izquierda) y Svetlana YURZHITS, vendedoras de la tienda "Suvenirnaya Lavka", se preparan para recibir a los visitantes; las bordadoras Ilona DUBININA (a la izquierda) y Cristina GARMAZA demuestran los artículos de la empresa.*
Foto: G. SEMENOV

# Quien vive en Bielorrusia

Según las estadísticas del censo de la URSS de 1989, la población de Bielorrusia alcanza la cifra de 10 millones 200 mil personas. Aumentó la población urbana llegando hasta el 65 %, y disminuyó la población rural. La razón principal sería la ola migratoria a las ciudades.

La quinta parte de la población es gente jubilada. El 47 % de la población son varones; el 53 %, mujeres. Aumentó el número de familias aunque disminuyó la cantidad de sus miembros. En la actualidad 8 millones 935 mil personas, o sea el 88 % de la población, han formado familias.

La nacionalidad predominante es la bielorrusa, pero viven también aquí 1 millón 342 mil rusos, 418 mil polacos, 291 mil ucranios y 112 mil hebreos. El 78 % de la población considera su lengua materna el idioma de su nacionalidad (entre los bielorrusos el 80 %) y el más de 22 %, la lengua de otros pueblos.

**Redactor de la página**
**K. SHELESTOVICH**

# EN ARAS DEL FUTURO

El año pasado en Roma tuvo lugar la conferencia "Formación de tradiciones socioculturales en Europa Oriental y Central: Bielorrusia, Lituania, Polonia y Ucrania". En sus labores participaron científicos bielorrusos como el lingüista Viacheslav Verénich, el historiador Alexandr Gritskévich y el literato Adán Maldis, quienes fueron recibidos por el Papa. El iniciador de tal conferencia fue el Instituto Polaco de cultura cristiana.

Adán Maldis comentó así este evento: "Por primera vez en la historia de Bielorrusia se congregaron y platicaron juntos bielorrusos de Minsk, Varsovia, Nueva York, Londres y Roma. En la conferencia se habló mucho de política y hubo divergencias; los intensos debates duraban hasta muy entrada la noche. Mas la desconfianza pronto cedió su lugar a la comprensión de que somos responsables por nuestra secular comunidad por la vinculación de los tiempos, y llegamos a la convicción de que necesitamos superar la ignorancia y la falta de atención a esta comunidad, y a la conclusión de que hay que hacer hincapié no en lo que nos separa sino en lo que nos une.

En la discusión sobre la "casa común europea" tomaron parte el profesor D. Beauvois, de Francia, y N. Davis, de Gran Bretaña. Analizando los problemas en el contexto de las relaciones de cuatro pueblos, ellos llamaron a no abrir las viejas heridas, sino a buscar la manera de curarlas. Es imposible no estar de acuerdo con ellos.

— **¿Qué decisiones concretas fueron tomadas?**

— Con el fin de mantener los contactos se decidió organizar un comité permanente con tres representantes de cada pueblo. De Bielorrusia entraron A. Gritskévich, V. Kípel y A. Maldis. Trazamos un plan determinado de las labores del comité, por ejemplo: la edición de un atlas conjunto: social, étnico y religioso. Los bielorrusos ya tienen experiencia de tales cosas: tengo en cuenta el atlas de nuestros científicos S. Polsky y S. Matiunin "Bielorrusos: ¿cuántos y dónde?".

Con los ucranios quedamos de acuerdo en editar publicaciones conjuntas. Con los colegas de Lituania conversamos de la resurrección del museo bielorruso Iván Lutskévich en Vilnius. En conclusión, todos los que participaron en la conferencia coincidieron unánimemente en apoyar la candidatura de Vasil Bíkov al galardón del premio Nobel.

— **¿Qué más hizo la Conferencia?**

— En la marcha de sus labores surgieron dos nuevas asociaciones de la lengua bielorrusa, una en Roma y otra en Nueva York. Sus representantes nos entregaron la cuota correspondiente en dólares americanos para la asociación de la misma índole en Minsk. Naturalmente, la delegación bielorrusa se dirigió a los anfitriones del encuentro con la petición de ayudarnos en el desastre de Chernóbil. En seguida respondieron la condesa Innacolata Solaro del Borgio y la marquesa Wanda Gawronska, presentes en la Conferencia. Con la asistencia del esposo de la condesa, Fausto Solaro del Borgio, presidente de la sociedad de caridad de la Orden de Malta, fueron comprados con urgencia, y más tarde traídos al aeropuerto, tres cajones de polivitaminas y remedios cardíacos para los niños víctimas de Chernóbil.

**Anatoli VERTINSKI**

Іван САВЕРЧАНКА

# КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА



33

XII

У 1589 годзе ў вышэйшых структурах улады Вялікага Княства адбыліся змены. Пасля смерці Яўстафія Валовіча вялікагетманскую булаву ўзяў Крыштоф Мікалай Радзівіл Пярун. Леў Сапега атрымаў вакантную пасаду канцлера, узначаліўшы адзін з важнейшых органаў выканаўчай улады гаспадарства. Ад яго цяпер цалкам залежала практычнае ажыццяўленне ўнутранай і знешняй палітыкі Княства: падрыхтоўка сваіх і прыём замежных пасольстваў, правядзенне павятовых соймікаў і Галоўных з'ездаў Княства. На плечы Сапегі лягла адказнасць за дзейнасць мясцовых уладаў, праваахоўных установаў, а таксама збор падаткаў, урэгуляванне канфліктаў між дзяржаваю і царквою ды многае іншае. Адным словам, канцлер Княства знаходзіўся на перакрыжаванні ўсіх жыццёва важных артэрыяў гаспадарства.

Аднак у сваіх дзеяннях, правядзенні адметнай палітычнай лініі Княства Леў Сапега і на пасадзе канцлера не быў цалкам свабодным. Нягледзячы на новае заканадаўства, у гаспадарстве па-ранейшаму захоўваўся адзін з важнейшых парадоксаў вышэйшай улады. Ні ўрад, у які акрым канцлера ды падканцлера ўваходзілі вялікі гетман, падскарбій, вялікі, надворны ды трыбунальскі маршалкі, ні вышэйшы заканадаўчы орган Княства — Вальны Сойм — не валодалі ў поўнай меры эканамічнымі правамі на тэрыторыі свайго ж гаспадарста. Яны, гаворачы сённяшняю моваю, фактычна не вызначалі кадравай палітыкі Княства. Права прызначэння на кіруючыя гас-

34

падарскія пасады трымаў у сваіх руках кароль і вялікі князь, не жадаючы перадаваць яго каму б тое ні было. У выніку ўсё без выключэння беларускае дваранства на справе матэрыяльна амаль цалкам залежала ад манарха, бо ён падпісваў усе прывілеі на вольныя землі, а таксама на свецкія і духоўныя вакансіі.

Пры існуючай, даволі спецыфічнай форме абмежаванай манархіі ў Вялікім Княстве любая палітычная апазіцыя каралю і вялікаму князю заўсёды адносна лёгка ім разбівалася. А метад «пугі і перніка», якім, як правіла, ва ўсе часы карысталіся манархі ў адносінах да сваіх васалаў, дазваляў ім пры неабходнасці ў любы момант пасварыць беларускіх паноў. У выніку, многія з дваранаў нярэдка станавіліся ў руках правіцеляў ледзьве не паслухмянымі марыянеткамі.

Леў Сапега, як патрыёт ды, урэшце, як уладалюбівая асоба, не жадаў мірыцца з неабмежаванымі дзеяннямі новага манарха, трагічныя рэзультаты якіх для Княства былі ўжо навідавоку. Ён пачынае самаахвярную барацьбу з Жыгімонтам III Вазам за поўную самастойнасць Княства, імкнучыся прымусіць манарха паважаць велікакняжацкія законы.

Канцлер, найперш, катэгарычна запатрабаваў, каб кароль і вялікі князь выконваў прынятыя на сябе абавязкі, нарэшце ўспомніў свае нядаўнія абяцанні яму і перастаў без узгаднення з урадам Вялікага Княства раздаваць прывілеі на велікакняжацкія землі, а таксама на свецкія і царкоўныя пасады.

Аднак Жыгімонт III не толькі праігнараваў патрабаванні канцлера, але ў 1590 годзе, пад

35

уздзеяннем польскай каталіцкай магнатэрыі, зрабіў спробу зноўку абысці законы Вялікага Княства і навязаць беларусам, ужо ў каторы раз, сваю волю. На месца памерлага кракаўскага каталіцкага біскупа Жыгімонт III запрасіў адданага беларускага католіка Юрыя Радзівіла, які займаў дагэтуль віленскую кафедру, і прапанаваў, як бы ўзамен, на вакантную пасаду ў Вільню — тагачасную сталіцу Беларусі — паляка Мацееўскага, што, як вядома, з'яўлялася грубейшым парушэннем Статута 1588 года, згодна з якім палякам, як і другім іншаземцам, наогул забаранялася займаць на землях Княства любыя пасады, у тым ліку і ў царкоўных структурах.

Абураны бесцырымонным учынкам манарха, яго палітычным авантурызмам, Леў Сапега ультыматыўна заявіў, што ён ніколі не дасць згоды на прысутнасць Мацееўскага на віленскай кафедры, і адмовіўся, чаго б яму тое ні каштавала, замацоўваць гаспадарскай пячаткай Княства любыя рашэнні біскупа-паляка.

Пачаўся працяглы канфлікт Льва Сапегі з Жыгімонтам III. Скончыўся ён толькі праз дзесяць год: у няпростым адзінаборстве з каралём і вялікім князем канцлер перамог: 26 красавіка 1600 года на віленскую каталіцкую кафедру заступіў беларус Бенедыкат Война.

Нязгода з воляй манарха, а тым больш адкрыты пратэст супроць яго,— гэта быў на той час адказны і надзвычай рызыкоўны крок. Кожны, нават вельмі магутны феадал, выступаючы наперакор каралю і вялікаму князю, асабліва такому ўладалюбіваму, як Жыгімонт III, ставіў на карту ўсё: сваю палітыч-

36

ную кар'еру, становішча ў грамадстве і, галоўнае, матэрыяльны дабрабыт. Канечне, Леў Сапега не быў аскетам і зусім не жадаў запраста развітвацца са сваімі прывілеямі, набытымі на працягу ўсяго папярэдняга жыцця. Але ўсё ж такі, не зважаючы на небяспеку, ён мужна прыняў выклік манарха. Значыць, можна меркаваць, лёс беларускага народа, захаванне яго самабытнай культуры, традыцыяў і выкананне гаспадарскіх законаў ён ставіў вышэй за ўласны дабрабыт і нават будучыню свайго роду.

Канфлікт паміж Жыгімонтам III і Львом Сапегам з-за віленскага каталіцкага біскупства цікавы яшчэ адной немалаважнай акалічнасцю. Якраз яна, як можа нішто іншае, дазваляе зразумець усю веліч асобы канцлера. З біяграфічных дакументаў Сапегі вядома, што ён у 1588 годзе прыняў каталіцкую веру і, здавалася б, згодна з логікай, уласцівай для тых часоў, павінен быў абараняць гонар сваёй канфесіі, спрыяць яе ўмацаванню. Аднак, як [illegible]а ні дзіўна нават сёння, канцлер паставіў на першае месца не канфесійныя, а палітычныя інтарэсы свайго гаспадарства. Сімвалічныя словы Льва Сапегі, сказаныя ім у лісце да вялікага гетмана Радзівіла: «Я католік і з ласкі Божай католікам хачу памерці, але пакой Айчыны сваёй да скону дзён сцерагчы буду».

Выбар, зроблены Сапегам,— гэта наогул унікальны выпадак у гісторыі сярэдневяковых дзяржаваў і чыннасці тагачасных еўрапейскіх палітыкаў. Пазіцыя канцлера — гэта патрыятызм вышэйшага кшталту, красамоўнае сведчанне поўнай яго адданасці беларускай

37

ідэі, неабвержнае пацвярджэнне таго, што Леў Сапега ніколі, ні пры якіх умовах не гандляваў Бацькаўшчынай, у чым, на жаль, яго, разам з многімі іншымі беларускімі дваранамі-патрыётамі, агулам, абсалютна беспадстаўна і, як бачна, памылкова абвінавачвалі ды і цяпер яшчэ абвінавачваюць некаторыя гісторыкі.

Як сведчаць архіўныя крыніцы канца XVI— пачатку XVII стагоддзяў, Жыгімонт III Ваза, сутыкнуўшыся з сапраўды жалезнай воляй вялікага канцлера, пацярпеў фіяска і мусіў напаследак скарыцца: пры вырашэнні любых, нават дробязных пытанняў на тэрыторыі Вялікага Княства ён, хаця і без асаблівых сімпатыяў да прынцыповага Льва Сапегі, павінен быў лічыцца з яго думкай, адсылаючы яму ўсе паперы і граматы для папярэдняга ўзгаднення. Ніводны каралеўскі дакумент з гэтага часу без канцлерскага подпісу і пячаткі Вялікага Княства не меў сілы на землях гаспадарства.

XIII

Па прычыне кепскіх стасункаў з Жыгімонтам III Леў Сапега свой матэрыяльны дабрабыт паляпшаў, карыстаючыся нярэдка паслугамі каралеўскай цёткі — Ганны Ягелонкі. Канцлер дасылаў ёй разматыя падарункі, а яна, са свайго боку, хадайнічала перад пляменнікам, дапамагаючы Сапегу атрымаць новыя землі і прывілеі.

Да цяперашняга часу захаваліся два лісты Ганны да Льва Сапегі (ад 20 кастрычніка і 29 снежня 1589 года), якія якраз і даюць уяўленне аб характары ўзаемаадносінаў між імі.

38

Аднак, калі прыватныя праблемы Сапегу ўдавалася вырашаць абходнымі шляхамі і, як бачна, даволі трывіяльна, то абарона агульнагаспадарскіх інтарэсаў Княства вымагала ад яго рашучых дзеянняў, волі і асабістае мужнасці.

Небяспека страты Княствам сваёй незалежнасці з-за безупынных прэтэнзіяў польскіх паноў на яго землі фактычна ніколі не знікала — ні на працягу канцлерства Льва Сапегі, нават пасля таго, як ён знайшоў «агульную мову» з Жыгімонтам III, ні пазней. Гісторыя захавала звесткі пра шматлікія сутычкі канцлера з польскімі панамі. Аб некаторых з іх, мусіць, трэба сказаць колькі слоў.

Па вясне 1590 года, калі пільна спатрэбіліся сродкі на ўтрыманне ўзмоцненага войска на паўднёвых рубяжах, палякі настойвалі на па-за-чарговым паборы менавіта з беларускіх земляў, самі нічога не жадаючы даваць. Сапега папсаваў сабе шмат крыві і нерваў, пакуль адвёў гэтую ліхасць ад Княства, якая, здаецца, пагражала гаспадарству поўным разарэннем. Але ці надоўга? Як сведчылі наступныя падзеі — зусім не.

Ужо ў маі таго ж года канцлеру зноўку давялося ваяваць з польскімі сенатарамі. Падчас варшаўскага Генеральнага Вальнага Сойму, пры падзеле «гаспод» (жалавання), яны лезлі са скуры, каб ашукаць паноў-раду Вялікага Княства і праз свае махлярствы крывадушна абабраць іх, захапіўшы для сябе з агульнае рэчпаспалітай скарбонкі лацьвейшыя кавалкі. Толькі прыезд у Варшаву вялікага гетмана Княства Радзівіла Пяруна ды яго аўтарытэт дапамаглі

39

Сапегу на той момант спыніць непрыхаванае машэнства палякаў.

Як бачна, зусім не выпадкова польскія паны на працягу ўсяе дзейнасці Льва Сапегі люта ненавідзелі яго. Наадварот, у вачах беларускага дваранства аўтарытэт канцлера, як палітыка і змагара за велікакняжацкія інтарэсы, узрастаў з кожным годам.

Папулярнасці Льва Сапегі сярод насельнікаў Вялікага Княства не мог не заўважыць і Жыгімонт III, у планы якога на пачатку 90-х гадоў XVI стагоддзя ўваходзіла ўмацаванне сувязяў Рэчы Паспалітай з Аўстрыяй. Польскія магнаты на чале з каронным канцлерам Замойскім, не жадаючы бачыць пры двары іншаземцаў, не падтрымалі намераў караля ды вялікага князя і выступілі супраць яго жаніцьбы з Ганнай Габсбургскай.

Жыгімонту III нічога не заставалася рабіць, як звярнуцца за дапамогаю да Льва Сапегі і шукаць судзеяння паноў-рады Вялікага Княства. 31 ліпеня 1590 года манарх піша чарговы прымірэнчы ліст да канцлера, просячы Сапегу і ўсё паньства адобрыць яго выбар і дазволіць пабрацца са старэйшай дачкой эрцгерцага Карла.

Леў Сапега, імкнучыся ўзмацніць свае пазіцыі пры двары і карыстаючыся зручным момантам «насаліць» палякам, пачаў актыўна спрыяць Жыгімонту III, здаецца, пазычыўшы яму нават грошаў на вяселле, якое хаця і значна пазней, чым меркавалася, але было спраўлена (30 мая 1593 года). А калі на Вальным Сойме паўстала пытанне аб выдзяленні для жонкі Жыгімонта Вазы зямельных надзе-

40

лаў і маёнткаў, супроць чаго зноў пратэставалі палякі, Леў Сапега ды іншыя беларускія сенатары, назло ім, другі раз падтрымалі караля і вялікага князя. У выніку Ганна Габсбургская здабыла некалькі маёнткаў на тэрыторыі Польшчы.

Пасля гэтых падзей асабістыя адносіны Льва Сапегі з манархам нібыта крыху пацяплелі, хаця і не сталі да канца шчырымі.

XIV

Вясной 1591 года ў дом Льва Сапегі прыйшла бяда. 14 сакавіка памерла яго жонка Дарота Фірлііёўна, пакінуўшы двухгадовага сына Яна і зусім асірацелую дачку ад першага мужа—Барбару. У тэстаменце, напісаным уласнаручна за дзевяць дзён да смерці, канцлярына завяшчала сваю маёмасць дачцэ і сыну. Мужу яна адпісала капітал у 30 тысяч злотых.

Тэстамент Дароты Фірліёўны не зусім звычайны. Гэта не толькі юрыдычны дакумент, а ў нейкай меры і літаратурны помнік, духоўны запавет клапатлівай жонкі і маці, перапоўнены пачуццямі і неймаверным смуткам. Вось толькі некалькі радкоў з яго: «Божачка мой, зрабі так, каб дачурка мая Бася не асірацела пасля мяне зусім. Каб выхоўвалі яе пачціва да паўналецця ці да таго часу, пакуль не знойдзецца ёй таварыш. Прашу выяводзіну віленскую, маю міласцівую пані і сястру (Кацярыну Танчынскую.— Аўт.), якая заўсёды да мяне была ласкаваю, каб яе міласць тую ж ласку на дзетак маіх звярнула, асабліва на дачурку маю Басю...»

Працяг. Пачатак у №№ 7—10.

